ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

САКАВІК, 2011
СПЕЦВЫПУСК





## У Гомелі прайшоў семінар на тэму “Стратэгічныя цяжбы”

*Гомельскія актывісты абмеркавалі, як паводзіць сябе падчас судоў і адміністратыўных арыштаў.*

*Як паведаміў **прадстаўнік незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці па Гомельскай вобласці Андрэй Стрыжак,** падчас мерапрыемства былі вызначаныя дзеянні, якіх варта прытрымліваццa грамадзянам у выпадку спробы ўжывання да іх адміністратыўнага спагнання.*

*- Вельмі часта мы вызнаем тактыку адмаўлення: я не прызнаю сваю віну, бо я не імкнуўся да тых мэтаў, пра якія напісана ў судовай пастанове. Я праходзіў паблізу ў мяне выпадкова быў сцяг і гэтак далей. На гэтым семінары мы распавядаем пра тое, што кожны чалавек ад нараджэння мае пэўныя правы і свабоды. Наша дзяржава ратыфікавала шматлікія міжнародныя дакументы, якія гэтыя правы замацоўваюць. Нават у судзе першай інстанцыі пра разглядзе справы трэба звяртаць увагу на тое, што права было парушанае. Напрыклад права на свабоду мірных сходаў: калі чалавек свядома ішоў на акцыю, каб рэалізаваць сваё права на свабоду мірных сходаў.*

***Васіль Палякоў, прадстаўнік гомельскага Цэнтру Стратэгічнай Цяжбы:***

*- Мы запрасілі актывістаў, якія у той ці іншай ступені удзельнічаюць у стратэгічных цяжбах дзеля таго, каб абмеркаваць філасофію, канцэпцыю стратэгічных цяжбаў, досвед, якія маюць іншыя краіны, каб было прасцей працаваць і ведаць навошта гэта трэба.*

*Гомельскі Цэнтр Стратэгічнай Цяжбы займаецца справамі абароны грамадскіх інтарэсаў. Сярод аднаго са стратэгічных накірункаў ініцыятывы абраная барацьба за найбольш парушальнае права ў Беларусі  права на свабоду мірных сходаў.*

**Радыё Рацыя**

# Алесь Бяляцкі: «Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі»

У сакавіку у Менску працягваліся судовыя працэсы па крымінальнай справе, узбуджанай ўладамі пасьля падзеяў 19 снежня 2010 года. Пад ціскам Расіі двум грамадзянам РФ былі вынесены буйныя штрафы, а грамадзянін Беларусі пакараны не пазбаўленьнем волі, а толькі яе абмежаваньнем без накіраваньня ва ўстанову адкрытага тыпу  так званай “хатняй хіміяй”. Але ці сьведчыць гэта пра паляпшэньне сітуацыі, якая склалася пасьля 19 сьнежня мінулага году? На гэтую тэму мы разважае віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі па правах чалавека, кіраўнік Праваабарончага цэнтру "Вясна", адзін з каардынатараў грамадзянскай ініцыятывы "Праваабаронцы за свабодныя выбары" Алесь Бяляцкі.

**Безумоўна, 19 сьнежня пачаўся новы этап у сучаснай гісторыі нашай краіны. Якія яго наступствы для беларускай грамадзянскай супольнасьці?**

Падчас выбарчай кампаніі мы, праваабаронцы, бачылі сваю ролю ў арганізацыі назіраньня за прэзідэнцкімі выбарамі. Мы пацьвердзілі нашу кааліцыю з Беларускім Хельсінкскім Камітэтам, якая сфармавалася ў 2008 годзе для назіраньня за парламенцкімі выбарамі. Наша задача была простай: прасачыць за тым, наколькі выбарчы працэс адказвае беларускаму заканадаўству і стандартам АБСЕ. Сваю задачу мы выканалі. А вось палітыкі, якія ішлі на прэзідэнцкія выбары, на маю думку, не ставілі для сябе сур'ёзных задач. Я зьяўляюся пасьлядоўным прыхільнікам аб'яднаньня дэмакратычных сіл і лічу, што слабая, разрозьненая палітычная апазіцыя ня можа дасягнуць колькі-небудзь значных мэтаў. Але што цікава  выбарчы махавік мабілізаваў людзей. Аналізуючы інфармацыю пра людзей, якія выйшлі на плошчу 19 сьнежня, можна прыйсьці да высновы, што яны зрабілі гэта не столькі ў падтрымку таго ці іншага кандыдата, колькі пратэстуючы супраць Лукашэнкі і патрабуючы дэмакратыі і свабоды. Пратэстнай акцыі такога маштабу мала хто чакаў. Але, нягледзячы на перадвыбарную блытаніну і пагрозы жорсткага падаўленьня пратэстаў, якія агучваліся прадстаўнікамі ўлады напярэдадні выбараў, людзі выйшлі на плошчу. Гэта ў чарговы раз паказала, што дэмакратычна арыентаваная частка грамадства ў Беларусі дастаткова вялікая, стабільная і прадстаўлена лепшымі людзьмі.

Такі жорсткі разгон мітынгу стаў для нас яшчэ адной нечаканасьцю. Я быў на акцыі і магу сьведчыць: калі б ва ўладаў было хаця б мінімальнае жаданне забясьпечыць яе мірны зыход  зрабіць гэта ім ня склала б цяжкасьцяў. Невядома, хто ініцыяваў біцьцё шкла ў вокнах і дзьвярах Дома Урада, але нават гэтыя дзеяньні, на маю думку, ня цягнуць за сабой крымінальную адказнасьць.

Акцыя, тым ня менш, была жорстка падаўлена, больш за семсот чалавек былі асуджаныя ў адміністрацыйным парадку: аштрафаваныя ці адбывалі суткі. Але маштабная кампанія рэпрэсіяў толькі набрала абароты, яна працягваецца і па гэты дзень. Толькі наша арганізацыя зафіксавала каля дзьвюх сотняў ператрусаў і яшчэ больш допытаў, праведзеных у краіне (хоць мы маем далёка не поўныя зьвесткі). Колькасьць абвінавачаных і падазраваных па крымінальнай справе аб масавых беспарадках перавaліла за 50 чалавек, сямёра з іх ужо асуджаны. Гэта беспрэцэдэнтная сітуацыя. Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі.

Працягваецца перасьлед палітычных і грамадскіх актывістаў. Гэтая хваля ціску ўжо не зьвязана з тым, што адбывалася перад выбарамі і падчас выбараў - улады проста выкарыстоўваюць узбуджаную крымінальную справу для таго, каб расправіцца з палітычнымі актывістамі, праваабаронцамі і журналістамі, пасеяць страх у грамадстве. Я перакананы, што гэта не атрымаецца, паколькі значная частка беларускага грамадства арыентаваная на дэмакратычныя каштоўнасьці, пратэстны патэнцыял высокі і загнаць яго ў падпольле магчыма толькі на кароткі час.

(працяг на 2 стр.)

# Алесь Бяляцкі: «Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі»



(пачатак на 1 стр.)

**Непрапарцыйна жорсткая рэакцыя беларускіх уладаў на акцыі пратэсту выглядала вельмі нелагічна на фоне дастаткова пасьпяховага перамоўнага працэсу з Еўрапейскім Саюзам. Чаму гэта адбылося?**

На фоне таго, як Лукашэнка вёў сябе ўсе гэтыя 16 гадоў, усё вельмі нават лагічна. Калі параўноўваць рэакцыю на акцыі пратэсту, напрыклад, у 1996 і 2006 гадах, можна пераканацца, што ў сьнежні 2010 не адбылося нічога незвычайнага. За ўвесь час прэзідэнцтва Лукашэнкі я ня памятаю перыяду, калі ў краіне не было б палітычных зьняволеных. Іх колькасьць у розныя часы зьмянялася, але заўсёды хто-небудзь падвяргаўся перасьледу. Мы можам сьведчыць аб гэтым, як арганізацыя, якая з 1998 году вядзе хроніку парушэньняў правоў чалавека ў рэспубліцы. Штогод ад тысячы да 3-х тысяч чалавек у краіне падвяргаліся рознага роду рэпрэсіям - ад перасьледаў КДБ да звальненьня з працы за палітычную ці грамадскую актыўнасьць. З 1996 году грамадзянская супольнасьць стала знаходзіцца пад прэсінгам уладаў. І як раз «перамір'е» апошніх паўтары гады гэта і ёсьць выключэньне з правілаў.
Але калі ўважліва паглядзець на «спакойны» 2010 год, мы нават там зможам заўважыць міні-крызісы. Мы памятаем пра двух асуджаных да сьмяротнага пакараньня і двух расстраляных вясной мінулага году. Вынесеныя і выкананыя прысуды, на маю думку, маюць палітычную падаплёку прэзідэнт такім чынам адрэагаваў на адмову Беларусі ў статусе назіральніка пры Савеце Еўропы. Мы памятаем аб прыняцьці ў 2010 годзе закону аб інтэрнэце, які яшчэ не ўжываецца, але абавязкова «стрэліць», у будучыні, як толькі ўлады разьбяруцца са спосабамі яго прымяненьня.
Праваабаронцы ня мелі асаблівых ілюзіяў наконт палітыкі лібералізацыі, якую абвясьцілі беларускія ўлады і папярэджвалі аб тым, што ніякіх структурных зьменаў не адбываецца і сітуацыя ў любы момант можа вярнуцца ў звыклае рэчышча. Мы адзначалі гэта і ў альтэрнатыўным Універсальным перыядычным аглядзе (UPR), які разглядаўся на сэсіі Савету правоў чалавека ААН у Жэневе вясной 2010 году. Улада абсалютна ўпэўненая ў правільнасьці сваіх крокаў. Мы перакананыя ў адваротным. Таму ў нас такая несумяшчальнасьць. Самае галоўнае тое, што мы вытрымалі першы ўдар.

**За мінулыя амаль тры месяцы адбылося шмат падзеяў што найбольш ўрэзалася ў памяць?**

Дыхнула трыццатымі. Перад выбарамі Раманчук «нападаў» на тых еўрапейскіх дэпутатаў, якія прыязджалі ў Менск, і абвінавачваў іх у тым, што сваім прыездам яны забясьпечваюць легітымнасьць Лукашэнкі, рабіў рэзкія заявы ў адрас апошняга. А потым, пасьля чатырохгадзіннай размовы з аховай прэзідэнта, Раманчук выступіў з заявай: ён выйшаў з пакамечанай паперкай, зьмест якой, запінаючыся, прачытаў. Ён абгаварыў іншага кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава і ягоную жонку журналістку І. Халіп і потым доўга ня мог спыніцца, спрабуючы апраўдацца. Гэтак жа было ў трыццатыя, калі верныя ленінцы прызнаваліся і прасілі справядлівы суд пакараць іх самым суровым пакараньнем. Усё гэта выклікала ня тое каб абурэньне, хутчэй, зьдзіўленьне дзе мы? Відавочна, што пальцы ў дзьверы Раманчуку ніхто не заціскаў, але аказаны псіхалагічны ціск яго зламаў. А іншы кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, які толькі нядаўна быў вызвалены з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыезьдзе заявіў, што да яго ўжываліся катаваньні і што яго прымусілі падпісаць паперу аб супрацоўніцтве з КДБ з умовай, што толькі тады ён убачыць свабоду. Улады, не саромеючыся, заяўляюць, што ўмовай выхаду на свабоду палітычных зьняволеных зьяўляецца пакаяньне. Ствараецца ўражаньне, што падобнае публічнае прыніжэньне апанентаў прыносіць Лукашэнку асаблівую садысцкую асалоду.
Што можа паўплываць на сітуацыю? Мы, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці, імкнемся дзейнічаць шляхам перакананьня, логікай, фактамі быць свайго роду фасілітатарамі паміж ахвярамі і ўладамі. У дэмакратычных краінах такая дзейнасьць прыносіць вынікі. У нашай «чорна-белай» сітуацыі трэба гуляць па шахматным правілах. Па-іншаму не атрымаецца. Зараз ўладамі грамадзянскай супольнасіці фактычна аб'яўлена вайна. Спадзяюся, мы выстаім ў гэтай вайне. Калі не, то краіну чакае варыянт Кубы у турмах будуць сядзець ужо не 30, а 300 палітычных і грамадскіх актывістаў, а астатнія будуць вымушаны сысьці ў глыбокае падпольле.

(заканчэньне на 3 стр.)

## Алесь Бяляцкі:
## «Такога маштабу рэпрэсіяў у краіне не было ніколі»

(заканчэньне)

Нам вельмі пашанцавала з тым, што мы зьяўляемся суседзямі Еўрапейскага Саюзу, а такое становішча справаў у краіне ўяўляе небясьпеку для ЕС. Тое, што адбываецца ў Беларусі, супярэчыць еўрапейскай памежнай палітыцы, мэтай якой ёсьць садзейнічаньне стварэньню стабільнай і прадказальнай палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў суседніх дзяржавах. Тут гэтага няма і блізка. У адказ на фальсіфікацыю выбараў і жорсткі разгон мірнай дэманстрацыі пратэсту ЕС увёў палітычныя санкцыі ў дачыненьні да беларускіх чыноўнікаў. Еўрапейскія палітыкі сьцвярджаюць, што калі будуць і далей груба парушацца правы чалавека, калі ў краіне будуць палітычныя зьняволеныя, вельмі магчыма ўвядзеньне і некаторых эканамічных санкцыяў. Я думаю, што ЕС будзе і надалей рэагаваць адпаведным чынам. Ня думаю, што на заходнім напрамку ў беларускіх уладаў у бліжэйшыя пяць гадоў будуць нейкія посьпехі. Лукашэнка сам вызначыў гэты тэрмін да наступных выбараў.

**Ці возьмецеся Вы зрабіць прагноз: як будуць развівацца падзеі?**

Я лічу, што Еўрапейскі Саюз, які будуе сваю палітыку на прынцыпах дэмакратыі і патрабуе павагі гэтых прынцыпаў ад краінаў, з якімі ён супрацоўнічае, не павінен рабіць выключэньняў для Беларусі. На маю думку, эканамічныя адносіны ЕС са сваімі суседзямі, у тым ліку і з Беларусьсю, павінны адпавядаць палітычным.

Зараз у краіне душаць грамадзянскую супольнасьць. Вядома, метады іншыя, чым гэта было ў трыццатых гадах. Але атмасфера вельмі нагадвае тыя часы людзей ламаюць за адну ноч, вымушаюць рабіць публічныя прызнаньні і пасыпаць галаву попелам. Фармуецца вобраз зьнешняга ворага. Такім ворагам ледзь было ня стала Расея, але ў апошні момант улады перадумалі і абвінавацілі Польшчу з Германіяй, вырашыўшы, што гэта больш звыклы і зразумелы абывацелю вобраз. Я думаю, што ціск на грамадзянскую супольнасьць з боку беларускіх уладаў будзе ўзмацняцца.

**У лютым Вас папярэдзілі за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Якія наступствы Вы чакаеце?**

Так, 16-га лютага мяне выклікалі ў Генеральную пракуратуру РБ, дзе ўручылі афіцыйнае папярэджаньне па крымінальным артыкуле 193.1 КК РБ за дзейнасьць ад імя незарэгістраванага грамадскага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Тым ня менш, яшчэ ў 2009 годзе, пасьля таго як нам тройчы адмовілі ў рэгістрацыі і магчымасьці атрыманьня легальнага статусу, мы заявілі, што будзем і далей працягваць праваабарончую працу. 17 лютага ў адказ на папярэджаньне Генпракуратуры Рада «Вясны» прыняла заяву, што мы расцэньваем гэта як спробу запалохваньня актывістаў арганізацыі і ўсяго праваабарончага руху Беларусі. Мы лічым сваю праваабарончую дзейнасць абсалютна законнай, запатрабаванай беларускай грамадскасьцю і не спынім яе, нягледзячы на відавочную пагрозу з боку ўладаў.

**Яніна Стэфанчук**

## На Гомельшчыне забаронена праводзіць пікеты салідарнасці

Мясцовыя ўлады адмовіліся прадстаўляць месцы для арганізацыі масавых мерапрыемстваў.
Адзін з ініцыятараў акцыі палітык **Марат Афанасьеў** кажа, што Жлобінскі райвыканкам забараніў пікеты з-за таго, што яны нібыта пераследуюць палітычныя мэты:
- Мы разлічвалі на тое, што калі мы нармальныя дакументы падамо ў выканкам, то, па аналогіі з выбарчай кампаніяй прэзідэнта, у нас будзе магчымасць правесці пікеты хаця б у частцы тых месцаў, запланаваных перад прэзідэнцкімі выбарамі. На жаль, атрымалася так, што выканкам у сваіх адказах забараніў пікеты салідарнасці. Нас здзіўляе такая пазіцыя ўладаў, бо яна нагадвае ўсе тыя выпадкі, калі нам нематывавана цягам апошніх пяць гадоў адмаўлялі ў правядзенні пікетаў.
Гомельскі гарвыканкам таксама адхіліў заяўкі дэмакратычных актывістаў на арганізацыю пікетаў салідарнасці. У Гомелі падставай для забароны мерапрыемстваў сталася тое, што "заяўнікі не аплацілі паслугі міліцыі, хуткай дапамогі, камунальных службаў, а таксама месцам правядзення пікета вызначылі найбольш людныя месцы абласнога цэнтра".
Гомельскі праваабаронца **Леанід Судаленка**:
- Лічу недапушчальным абмежаванне нашых правоў на свабоду выяўлення меркавання і правядзення па сэнсу артыкулаў 23, 33 і 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. За апошнія два гады ў Гомельскім рэгіёне суды болей за 40 разоў прыцягвалі актывістаў да розных адміністрацыйных санкцыяў за спробы правядзення мірных сходаў без атрымання на гэта дазволу ўладаў.
Сябры дэмакратычных партыяў, якія ўваходзяць у Кааліцыю Аб'яднаных дэмакратычных сілаў Гомельшчыны, яшчэ ў пачатку лютага падалі больш за 20 заявак на правядзенне пікетаў салідарнасці ў абласным і раённых цэнтрах вобласці.

**Радыё Рацыя**



Час вольных пікетаў скончыўся разам з выбарамі

## Праваборончыя арганізацыі АБСЕ знаёмяцца з сітуацыяй ў Гомелі

Прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў прасторы АБСЕ намераныя азнаёміцца з правамі чалавека ў рэгіёнах Беларусі. Гомель стаў першым абласным горадам, куды завіталі сябры Камітэта міжнароднага кантролю.

5 сакавіка ў Гомелі адбылася сустрэча прадстаўнікоў Міжнароднага камітэта з актывістамі недзяржаўных аб'яднанняў абласнога цэнтра. Сярод мэтаў камітэта маніторынг і міжнародны кантроль за сітуацыяй з захаваннем правоў чалавека і праваабарончых арганізацыяў у Беларусі. А таксама выпрацоўка рэкамендацыяў органам улады Беларусі і міжнародным арганізацыям па нармалізацыі сітуацыі.

Як распавяла супрацоўніца міжнароднай назіральнай місіі Міжнароднага камітэта Марыя Ясіноўская, мэта сустрэчы ў Гомелі знаёмства з актывам праваабарончых арганізацый:

- Мы хочам аказваць дапамогу і наладзіць супрацоўніцтва з арганізацыямі не толькі ў Мінску, але ў рэгіёнах Беларусі. Я б хацела даведацца, якія ёсьць патрэбы непасрэдна ў аб'яднанняў, якія знаходзяцца ў Гомелі. А таксама пачуць іх бачанне адносна таго, якую дапамогу можа аказаць Міжнародны камітэт, і бачанне далейшай міжнароднай дапамогі грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Мне падаецца, у першую чаргу, неабходная маральна-інфармацыйная падтрымка, то бок распаўсюд інфармацыі у бліжэйшых краінах Украіне і Расіі - пра тое, што адбываецца ў Беларусі і непасрэдна ў Гомелі.

Паводле сябра БХК па Гомелі Віктара Адзіночанкі, для праваабарончых арганізацыяў вельмі важная маральная падтрымка міжнародных структураў:

> «У першую чаргу, неабходная маральна-інфармацыйная падтрымка»

- Гомель гэта першы горад, куды прыехалі прадстаўнікі Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Канкрэтны вынік сустрэчы прадстаўнікі камітэта пазнаёмяцца з сітуацыяй, збяруць інфармацыю і перададуць яе Спецыяльнаму Дакладчыку Міжнароднага камітэта.

У Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі ўваходзяць прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў прасторы АБСЕ і міжнародных грамадзянскіх сетак і арганізацый. Для расследавання падзеяў 19 снежня Міжнародны камітэт прызначыў Спецыяльнага Дакладчыка.

**Радыё Рацыя**

## На **Дзень Волі** - мітынгі, шэсьці, пікеты

Да Дня волі грамадзкія актывісты Гомеля й Жлобіну замовілі ў выканкамах пяць пікетаў. Масавымі акцыямі яны наважаны нагадаць мінакам пра ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, якія зноў распачаліся пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

Апавядае гомельская моладзевая актывістка Натальля Самсонава. На мінулых выбарах яна зьбірала подпісы й вяла агітацыю за Ўладзімера Някляева:

*«На 25 сакавіка мы замовілі пікеты ў падтрымку палітвязьняў. У нашым грамадзтве інфармацыю падаюць толькі з аднаго боку, які выгадны нашай уладзе. На самой справе вялікая колькасьць людзей знаходзяцца зараз у турмах, пад падпіскай пра нявыезд. І гэтыя суды, на якія сьмешна глядзець. Мы хочам данесьці да грамадзкасьці гэтую інфармацыю».*


Валер Рыбчанка

Пікеты ў абласным цэнтры замоўленыя на пляцоўках ля ўнівэрмагу «Гомель» і швейнага прадпрыемства «Камінтэрн», дзе падчас прэзыдэнцкіх выбараў вёўся збор подпісаў за альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзыдэнты.

У Жлобіне мясцовыя актывісты замовілі на Дзень волі тры пікеты - у Прыдняпроўскім парку, ля кінатэатру «Радзіма» і лядовага палаца.

У ліку ініцыятараў пікетаў - кіраўнік раённай арганізацыі партыі левых «Справядлівы сьвет» Валер Рыбчанка:

*«Мы замовілі пікеты, каб прыцягнуць увагу да Дня волі - дня беларускай незалежнасьці, а таксама супраць зьняволеньня палітычных апанэнтаў улады, якія да гэтага часу знаходзяцца за кратамі, а хтосьці пад хатнім арыштам».*

Сябра БНФ СА Жлобіну Алег Кастусёў таксама падаў замову ў райвыканкам на пікет у Дзень волі. На думку спадара Кастусёва, гэтая дата наагул мае прынцыповае значэньне: і ў справе змаганьня за лёс палітзьняволеных, і ў справе змаганьня кожнага за свае грамадзянскія правы.

**Радыё Свабода**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 1 000 асобнікаў.